Год выданьня VI Przesyłka opłacona ryczałtem. № 2 (10)

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

ЦАРКОЎНА-НАЦЫЯНАЛЬНЫ ОРГАН ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Лістапад 1936 год.

**Adres odbiorcy:**

Komu ........................................................

................................................................

................................................................

poczta ......................................................

................................................................

# Ад Рэдакцыі.

*У цяжкі мамэнт, які перажывае Нашая Царква, зьяўляецца патрэбным аб'яднаньне ўсіх тых, што аддадзены сваей Царкве і Сьв. Праваслаўю. Патрэбна незалежная праваслаўная часопісь, якая-б адважна выступала ў абароне інтарэсаў Царквы, выступала супроць тых, што дзеля асабістых амбіцыяў і дзеля сваей ўласнай кар'еры сеюць непакой у Царкве. „Сьветач Беларусі", які заўсёды стаяў на варце інтарэсаў Царквы і бараніў сваё духавенства, якраз і зьяўляецца той незалежнай часопісьсю, якая ў сучасны мамэнт ёсьць неабходнай для Царквы.*

*ВЕРЫМ, ШТО ДУХАВЕНСТВА, ЗАЦІКАЎЛЕНАЕ У НЕНАРУШЫМАСЬЦІ УСТАНОЎЛЕНЫХ ВЯКАМІ ТРАДЫЦЫЯЎ НАШАЕ СЬВ. ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ, ПАДТРЫМАЕ СВАЮ ЧАСОПІСЬ І МАРАЛЬНА І МАТАРЫЯЛЬНА І ГЭТЫМ ДАСЬЦЬ ЕЙ МАГЧЫМАСЬЦЬ РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ.*

*„Сьветач Беларусі" будзе дамагацца як найхутчэйшага скліканьня Агульна-Польскага памеснага Сабору, які павінен будзе ўрэшце ўрэгуляваць нашае царкоўнае жыцьцё і абараніць нашую Царкву ад новых устросаў і смутаў.*

*Думаем, што духавенства адгукнецца на наш заклік і дапаможа нам, бо мы верым, што яно аддадзена сваей Царкве і Сьв. Праваслаўю.*

**РЭДАКЦЫЯ.**

Цана нум. 50 гр. № 2 (10)

# Сьветач Беларусі

Непэрыядычны Царкоўна-Нацыянальны Орган Праваслаўных Беларусаў

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Вясеньняя вуліца 7-2.

*ВІЛЬНЯ, ЛІСТАПАД 1936 Г.*

14 сакавіка 19`0 году адбыўся зьезд беларускага праваслаўнага грамадзянства. Зьезд усебакова разважыў царкоўнае пытаньне на нашых землях і, выбраўшы Цэнтральны Беларускі Праваслаўны К-т, даручыў яму правясьці ў жыцьцё пастуляты і наступныя рэзалюцыі зьезду:

1) Склікаць агульна-польскі праваслаўны Сабор;

2) Рэформа кансысторыяў ў сэнсе іх беларусізацыі;

3) Дамагацца беларусізацыі Духоўнае Сэмінарыі ў Вільні;

4) Зьвярнуцца да Архіепіскапаў Віленскага, Горадзенскага і Пінскага ў справе правядзеньня ў жыцьцё духавенствам загадаў Сьв. Сыноду з 1923 г. аб прапаведаньні пабеларуску. Богаслужэбным языком павінен астацца і надалей язык царкоўна-славянскі;

5) Закон Божы павінен выкладацца выключна пабеларуску і дзеля гэтага дамагацца ад Архіепіскапаў Віленскага, Горадзенскага і Пінскага выданьня загадаў духавенству ў справе абавязковага выкладаньня рэлігіі ў школах пабеларуску, згодна з загадам Міністра Рэлігійных Справаў і Асьветы ад 11 траўня 1927 г. за № I — 3937/27.

6) Дзеля таго, што расейцы становяць нязначную частку праваслаўнага насельніцтва ў Польшчы, прасіць каб духоўная і вайсковая ўлады вызначалі на становішчы вайсковых сьвяшчэньнікаў беларусаў ці украінцаў і выдалі ім загад гаварыць пропаведзі для беларусаў пабеларуску;

7) Дамагацца поўнае беларусізацыі царкоўнага быту;

8) Выступаць у абароне духавенства;

9) Дамагацца, каб польскі ўрад зрабіў захады перад Вышэйшай Рымска-Каталіцкай іерархіяй у справе рэвіндыкацыі цэркваў.

Старшынёю К-ту быў выбраны гр. Тодар Вернікоўскі. Паўстаньне беларускае праваслаўнае арганізацыі выклікала цэлую буру нападаў і інсынуацыяў як супроць самога К-ту, так і яго паасобных сяброў. Духавенства, іерархія, расейскае грамадзянства і расейская прэса бачылі ў паўстаньні беларускае праваслаўнае арганізацыі канец свайго кіраваньня лёсам Царквы. Да часу паўстаньня К-ту барацьба за Царкву вялася беларусамі неарганізавана, К-тэт-жа павёў сваю працу плянова, на аснове рэзалюцыяў зьезду. Спачатку ба-

рацьба была вельмі вострая, неват дайшла да таго, што Старшыню К-ту і некатарых яго сяброў духоўная ўлада мела намер адлучыць ад Царквы. Аднак да гэтага не дайшло і некаторыя пастуляты зьезду ўвайшлі ў царкоўнае жыцьцё. Заслугаю К-ту зьяўляецца тое, што сяньня за **сваю Царкву** змагаецца ўжо ня толькі К-т, але і ўсё сьведамае беларускае праваслаўнае грамадзянства.

Цяпер К-т не адзін, цяпер гэта ўжо не невялічкая група людзей, як падчырківала ў свой час расейская прэса, а шырокі беларускі праваслаўны фронт, які ў аснову свайго змаганьня палажыў якраз тыя пастуляты, якія высунуў у свой час К-т.

У змаганьні за сваю Царкву беларускае праваслаўнае грамадзянства не разыходзіцца з Камітэтам і таму можна лічыць, што стварыўся беларускі праваслаўны цэнтр, які і праводзіць у жыцьцё ідэалёгію беларускага праваслаўнага грамадзянства.

Палажэньне Праваслаўнае Царквы на нашых землях вельмі цяжкое. З аднаго боку сэктанства, бязбожжа і няверра раз'ядаюць малады, нанова паўстаўшы царкоўны арганізм, з другога — ня менш пагаршае палажэньне нашае Царквы незразуменьне іерархіяй і большасьцяй духавенства сваей ролі, як духоўных правадыроў белар. народу. Усе гэныя зьявішчы аслабляюць Царкву і паніжаюць Яе значэньне.

Цэнтральны Бел. Праваслаўны К-т паставіў сабе мэтаю зьблізіць духавенства і народ і гэтым самым параліжаваць разьядаючыя Царкву зьявішчы.

Адчуваючы ў сваей працы на карысьць Царквы падтрыманьне з боку белар. правасл. грамадзянства, шчыра аддадзенага **сваёй Царкве,** К-т бязупынна дамагаецца ад духоўнае ўлады рэформаў і пераменаў ў царкоўным жыцьці, якія-б аздаравілі суадносіны ў нашай Царкве, якія-б улілі ў замiраючы царкоўны арганізм сьвежай крыві і павялі-б **Нашую Царкву** да яе былое славы і значэньня.

К-т у сваім прэсавым органе „Сьветач Беларусі“ ня раз вельмі востра выступаў у абароне сваей Царквы і ў абароне свайго духавенства, аб якім шмат пішуць, і пішуць тое, што прыйдзе на думку, а яно павінна маўчаць, бо ня мае сваей прэсы, якая-б яго бараніла.

Дзякуючы парадкам, пануючым у Царкве на нашых землях, духавенства змушана было не падтрымліваць „Сьветача Беларусі“, de facto свайго адзінага прэсавага органа,—бо калі і зайшлі нейкія палёгкі ў жыцьці духавенства, дык да гэтага шмат спрычыніўся якраз „Сьветач Бларусі“.

Час зьмяніўся!

Цяпер духавенства можа сьмела падтрымліваць сваю часопісь і даць ёй магчымасьць выхадзіць рэгулярна. Патрэба такога органу, як „Сьветач Беларусі“ духавенствам прызнана, асабліва тою часткаю,

якая па тым ці іншым прычынам трапіла ў няласку або сваей духоўнай, або сьвецкай ўлады.

І так ужо прайшло 6 гадоў ад залажэньня К-ту!

6 гадоў бязупыннай ахвярнай працы!

Увесь час Старшынёю К-ту быў гр. Тотар Вернікоўскі, выбраны на зьезьдзе 14 сакавіка 1930 году. 75-летні старэц, на схіле свайго жыцьця аддаў ўсю сваю энэргію, увесь свой запал служэньню сваёй Царкве і Свайму Народу. Паходзячы з духоўнае сям'і, атрымаўшы адукацыю ў духоўных школах, меўшы брата епіскапа, захаваўшы традыцыйную пашану да духоўнае ўлады — адважна выступіў супроць існуючых парадкаў у нашае Царкве, дамагаючыся рэформаў і зьменаў у царкоўным жыцьці.

Цэнтральны Беларускі Праваслаўны К-т па некаторым матывам сьвяткаваньне свайго 5-годняга юбілею адлажыў на дзень 24.XI. 1936 г., на дзень 75-годняга юбілею свайго Старшыні гр. Тодара Вернікоўскага. Такім чынам К-т будзе сьвяткаваць свой урачысты дзень разам з юбілеям свайго старшыні — барацьбіта за нашую Царкву.

З гэтай нагоды супрацоўнікі „Сьветача Беларусі", віншуючы К-т з угодкамі яго 6-гадовае працы, жадаюць яму далейшага пасьпеху ў яго працы, а старшыні К-ту, вельмі паважанаму гр. Тодару Вернікоўскаму, здароўя і нязломнай сілы, гэтак патрэбнай у змаганьні за ідэалы Беларускага Народу.

ХАЙ ЖЫВЕ ЦЭНТРАЛЬНЫ БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ К-Т І ЯГО СТАРШЫНЯ ГР. ТОДАР ВЕРНІКОЎСКІ!

---

# Агляд дзейнасьці Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту.

**6 гадоў прайшло ад мамэнту залажэньня Цэнтр. Белар. Правасл. К-ту. За гэны час шмат прышлося перажыць К-ту і толькі ахвярнасьць яго сяброў, шчыра аддадзеных ідэі служэньня сваёй Царкве і свайму Народу, памагла К-ту скрануць з мёртвага пункту справу нашае Царквы і паставіць яе на больш цьвёрды грунт. Асабліва цяжка было працаваць К-ту ў першым годзе свайго існаваньня.**

**Паўстаньне беларускай праваслаўнай арганізацыі расейская газ. „Наша Жизнь" прывітала варожа; не шкадуючы нападаў і інсынуацыяў як на самы К-т, так і на яго паасобных сяброў, старалася аднačасна сдыскрэдытаваць самую ідэю беларусізацыі быту нашага царкоўнага жыцьця.**

**Ня гледзячы на такія няспрыяючыя абставіны, Цэнтр. Белар. Правасл. К-т аднак павёў сваю працу, і павёў яе шчыра. Ў мэморыялах да Вышэйшай Духоўнай Улады і ў сваёй часопісі „Сьветач Беларусі"**

Цэнтр. Белар. Правасл. К-т высьвятляў сытуацыю, якая стварылася ў царкоўным жыцьці і рашуча дамагаўся зьменаў і рэформаў. Нажаль частка духавенства, быццам з ведама мясцовай Духоўнай Улады ўвайшла ў кантакт з беларускай масонэрыяй, ў інтарэсах якой было якраз аслабленьне ў народзе ўплываў Царквы. Вынікам гэтага кантакту было выданьне „праўлаўнай“ беларускай часопісі „Праваслаўны Беларус“. Нядоўга праіснавала гэтая часопісь, аднак сваё зрабіла, бо дала асновы Вышэйшай Духоўнай Уладзе ня лічыцца з К-там, тлумачачы, што К-т ня выяўляе волі ўсяго праваслаўнага грамадзянства, што гэта невялічкая група людзей, якая паставіла сабе мэтаю сеяць смуту ў „мирном церковном житьи“. Але ідэя, паложаная ў аснову стварэньня К-ту, перамагла ўсё.

Ў гісторыі Царквы на нашых землях стварэньне К-ту пачало новую эру, эру пляновага, арганізаванага змаганьня беларускага праваслаўнага грамадзянства за сваю Царкву.

Асаблівыя абставіны палітычна-грамадзкага беларускага жыцьця часам твораць пэўныя недарэчнасьці. Такімі недарэчнасьцямі зьяўляецца існаваньне раўналежных арганізацыяў, якія фактычна вядуць адну і тую-ж працу, імкнуцца да адных і тых-жа мэтаў, але зьяўляюцца творамі розных палітычных партыяў і групаў.

Пастуляты, высунутыя Цэнтр. Белар.Правасл. К-там, былі жыцьцёвымі і неабходнымі дзеля далейшага разьвіцьця грамадзка-царкоўнага жыцьця Беларускага Народу. Партыі, якія прэтэндавалі на кіруючую ролю ў палітычна-грамадзкім жыцьці беларускага грамадзянства, не хацелі дапусьціць, каб праца, якую павёў К-т, выйшла з пад іх уплываў.

Але К-т, які палажыў ў аснове сваей працы ідэйнае змаганьне за сваю Царкву, які зьяўляецца арганізацыяй апалітычнай і складаецца з людзей шчыра аддадзеных сваёй Царкве, для якіх Царква ня была палітычнаю пляцоўкаю, а хрысьціянскаю грамадою, якая павінна выхоўваць сваіх верных у ідэалах хрысьціянскае маралі — ня мог падпарадкавацца ніякай палітычнай партыі, і таму захаваў сваю самастойнасьць.

Тое, што ня мае ідэі, зьяўляецца недоўгавечным і таму гэныя штучныя творы, якія імкнуліся толькі да павялічваньня сваіх палітычных ўплываў, ніякае ролі ў змаганьні белар. правасл. грамадзянства за сваю Царкву не адыгралі.

Увесь цяжар барацьбы за нашую Царкву паў на К-тэт. Але тое, што пастуляты і дамаганьні К-ту падтрымоўваліся абсалютна ўсім сьведамым беларускім праваслаўным грамадзянствам, змусіла духоўную уладу лічыцца з ім.

К-ту прыйшлося ўвайсьці ў няроўную барацьбу, бо прышлося змагацца і з духоўнаю уладаю і з расейскім грамадзянствам, якое не хацела адмовіцца ад кіруючай ролі ў Царкве. Духоўная ўлада, якая падтрымоўвалася расейскім грамадзянствам і расейскаю прэсаю, доўгі час выяўляла няпрыхільнасьць да пастулятаў і дамаганьняў К-ту. І вось толькі дзеля таго, што пастуляты К-ту зьяўляліся адначасна агульнымі дамаганьнямі ўсяго сьведамага беларускага праваслаўнага грамадзянства, духоўнай уладзе прышлося лічыцца з імі.

Ахвярная, ідэйная праца К-ту дарма ня прайшла! Ня гледзячы на тое, што духоўная ўлада да ўсяго беларускага адносілася няпрыхільна, сярод духавенства паўстае, праўда нясьмела, вельмі асьцярожна, пераконаньне, што яно паклікана вясьці сваю духоўную працу сярод беларускага народу. Частка духавенства нават заявіла аб сваёй беларускасьці і хаця за тое трапіла ў нямілясьць сваей духоўнай ўлады, але ад сваей кроўнай сувязі з беларускім народам не адмовілася. Ў Варшаўскім Унівэрсытэце на Тэолёгіі творыцца беларускае Кола Тэолёгаў, сябры якога цяпер ужо працуюць як сьвяшчэньнікі-беларусы.

Духоўная ўлада нарэшце прызнала неабходным выкладаньне Закону Божага ў школах пабеларуску. Пропаведзі па вёсках пачынаюць гаварыцца пабеларуску. Выдаюцца ў беларускай мове падручнікі для выкладаньня Закону Божага. Была створана духоўнымі ўладамі Камісія дзеля перакладу на беларускі язык богаслужэбных кнігаў.

Быў час, праўда нядоўгі, калі ў Віленскай епархіі нават мэтрыкі пачаліся пісацца ў мове беларускай. Ў 15-ыя свае ўгодкі Беларускі Студ. Саюз пачаў сваё сьвяткаваньне ад малітвы ў Царкве і г. д.

Праўда, што гэта вельмі малыя вынікі працы К-ту, але трэба адзначыць, што калі К-ту ня было-б, дык і гэных дасягненьняў магчыма таксама ня было-б.

Трэба прыняць пад увагу тое, што К-т доўгі час працаваў адзін, бо шырокія кругі беларускага грамадзянства мала яму памагалі, больш прыглядаючыся да яго працы. Толькі ў апошні час можна было спаткацца з прызнаньнем, што праца К-ту зьяўляецца карыснай.

К-т, які на сваіх плячох выняс увесь цяжар змаганьня за правы белар. народу за сваю Царкву, які выняс цяжкую барацьбу з расейскім грамадзянствам і з незразуменьнем духоўнае ўлады, К-т гэты, якога расейская прэса абліваала рознымі інсынуацыямі і тварыла нават з К-ту ворага Царквы, мае маральнае здаваленьне, што ў змаганьні за сваю Царкву прычыніўся да аб'яднаньня ўсяго сьведамага праваслаўнага грамадзянства, якое з К-там не разыходзіцца, і якое палажыла ў аснове сваіх дамаганьняў яго пастуляты. К-т даў імпульс і кірунак беларускаму праваслаўнаму грамадзянству і таму, раней ці пазьней, аднак пастуляты высунутыя ім у свой час усяцэла ўвойдуць у жыцьцё. 6-гадовая ахвярная праца дала свае вынікі. Далейшыя пасьпехі залежаць ужо ад нашага праваслаўнага грамадзянства, якое павінна падтрымаць К-т і гэтым самым даць яму новыя сілы дзеля зьдзейсьненьня яго мэтаў і імкненьняў да ўпарадкаваньня нашага царкоўнага жыцьця, што ў сваю чаргу дасьць магчымасць нашай Царкве ўзмацніцца і ўваскрасіць сваю былую славу.

*Іван Душкевіч.*

---

# Тодар Вернікоўскі.

24 лістапада с. г. гр. Тодар Вернікоўскі сьвяткуе 75 угодкі свайго жыцьця. Як ведама, грам. Тодар Вернікоўскі ад 14 сакавіка 1930 г. і да сяньня зьяўляецца старшынёй Прэзыдыюму Цэнтральнага Бела-

рускага Праваслаўнага Камітэту ў Вільні, мэтай якога ёсьць зблі-жэньне духавенства да народу і паглыбленьне рэлігійнае сьведама-сьці гэтага апошняга. Даволі часта можна было пачуць пытаньне, што пабудзіла грам. Т Вернікоўскага да прыняцьця ўдзелу ў працах Камітэту, а нават да прыняцьця становішча старшыні Прэзыдыюму гэтага Камітэту? Кароткі біаграфічны нарыс грам. Т. Вернікоўскага дасьць найлепшы адказ на ўспомненае пытаньне.

Грам. Т. Вернікоўскі радзіўся 24 лістапада 1861 г. у мястэчку Дудзічах у Меншчыне. Радзіўся ў беднай але вельмі рэлігійнай сям'і дудзіцкага панамара Міхася Вернікоўскага. Да дзесяцёх гадоў малады Тодар знаходзіцца пры бацьку, разам з ім сьпяваючы ў хоры дудзіц-кай царквы. Дзесяцігадовага хлапчука бацька аддае ў менскую Ду-хоўную Школу, а праз чатыры гады ў менскую Духоўную Сэмінарыю. Адначасна з гэтым малады Тодар там-жа ў Менску пяе ў архірэйскім хоры. Варта тут успомніць, што менскім Епіскапам быў у той час Архіепіскап Александр Дабрынін, ведамы супрацоўнік Мітрапаліта Семашкі. Трэба тут адзначыць яшчэ тое, што і малодшы брат Т. Вер-нікоўскага, — Кастусь у той час таксама вучыўся ў Менску ў тэй-жа Духоўнай Сэмінарыі. Пасьля сканчэньня яе, малады Тодар паступае ў Тэхнолёгічны Інстытут у Пецярбурзе (1878 г ), а брат Тодара ў Пе-цярбургскую Духоўную Акадэмію. Пры помачы брата Тодар Вернікоў-скі навязывае цесную сувязь з успомненай Акадэміяй, а таксама і з яе тагачасным інспэктарам-іераманахам доцэнтам Антонам Храповіцкім, які як ведама, нядаўна памёр у сане Мітрапаліта і Прадстаяцеля Ра-сейскае Зарубежнае Царквы. Завязаныя некалісь зносіны з Мітрапалі-там Антонам грам. Т. Вернікоўскі падтрымліваў амаль да апошняга часу.

Пасьля сканчэньня навукі ў Пецярбурзе браты Вернікоўскія разьяжджаюцца ў розныя бакі дзеля заняцьця розных стано-вішчаў. Тодар Вернікоўскі, як гідратэхнік трапляе на Палесьсе ў экс-пэдыцыю па асушцы балотаў. Кастусь Вернікоўскі ўжо як архіманд-рыт Клімэнт назначаецца перш рэктарам Дух. Сэмінарыі ў Холме (дзе ў той час вучыўся сяньняшні Прадстаяцель Прав. Царквы ў Поль-шчы Мітрапаліт Дзяніс), потым рэктарам Дух. Сэмінарыі ў Маскве і ўрэшце Каменец-Падольскім Епіскапам. І хоць прышлося, дагэтуль заўсёды разам і дружна жывучы, братом Вернікоўскім разьехацца, назаўсёды асталіся з сабой у цеснай лучнасьці і зносінах.

Глыбокая прывязанасьць да Царквы, шчырая любоў да Яе, вы-несеныя Т. Вернікоўскім з пад страхі бацькавай хаты і з муроў духоў-нае школы, зьяўляюцца характэрнай рысай Т. Вернікоўскага і ў пазь-нейшыя часы. Рэч зразумелая, што ўспомненая прывязанасьць да Цар-квы яшчэ больш паглыбляецца ў Т. Вернікоўскага, а гэта дзякуючы яго сталым і блізкім зносінам з праваслаўнымі Іерархамі (Мітр. Ан-тон, брат Епіск. Клімэнт, Епіск. Менскі Сымон) і духавенствам. Адным з прыкладаў передваенных адносінаў Т. Вернікоўскага да Царквы можа быць той факт, што ён на свой кошт аднаўляе царкву ў Грэ-бені, Ігуменскага павету ды і наагул у гэты час шырака і дзейна апя-куецца сельскімі царквамі, за што атрымлівае цэлы рад падзякаў ад вельмі скупога ў даваньні іх Менскага Епіскапа Сымона, ведамага і строгага маліцьвеньніка.

У 1918 г. Т. Вернікоўскі супольна з тагачасным Менскім Епіска-пам Мелхісыдэкам закладаюць Беларускае Царкоўнае Брацтва, да яко-

га потым належала шмат іншых беларускіх дзеячоў, добра ведамых гісторыі нашага адраджэньня. Брацтва гэтае цесна супрацоўнічае з духавенствам Менскае Епархіі. Т Вернікоўскі ня раз на Зьездах гэтага духавенства выступае з гарачымі заклікамі збліжэньня духавенства да беларускіх масаў. Брацтва гэтае працуе дзейна, закладаюцца яго аддзелы ў Бабруйскім, Ігумене, Рэчыцы, Дудзічах і іншых мясцох. Ваенная завіруха гэтую працу хутка спыніла. Т. Вернікоўскі як сябра Бел. Вайсковае Камісыі трапляе ў Лодзь. Не парывае і тут ён сваік зносінаў з Царквой. Дзейна працуе на карысьць знаходзячагася пад яе апекай дзіцячага прытулку ім. сьв. Вольгі. У 1922 г. Т. Вернікоўскага бачым у м. Радашкавічах, дзе, поўнячы абавязкі інспэктара Беларускае Гімназіі, адначасна працуе і на царкоўнай ніве. Памагае ў зарганізаваньні царкоўнага хору, бярэ сам асабісты ўдзел у ладжаных духоўных канцэртах. На гэты час прыпадаюць рашучыя выступленьні Т. Вернікоўскага супроць ворагаў Прав. Царквы. Т. Вернікоўскі ў цэлым радзе месцаў (Радашкавічы, Маладэчна, Уша, Краснае, Гародзькі і інш.), пры зборышчы вялікіх натоўпаў праваслаўных беларусаў, заклікае да барацьбы за дабро Царквы.

Ад 1927 г. Т. Вернікоўскі прыймае ўдзел у працах Таварыства „Прасьвета“, у хуткім часе робячыся і яго старшынёй. Ад гэтуль Т-ва „Прасьвета“ пачынае бараніць і справы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, пачынае дзейна прапагаваць ідэю зьвязаньня духавенства з праваслаўнымі беларускімі масамі. У 1930 г. паўстае Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт у Вільні. Адным з дзейных ініцыятараў залажэньня гэтага Камітэту зьяўляеццаа і Т. Вернікоўскі.

Бачым такім чымам, што Т. Вернікоўскі ад наймалодшых гадоў і праз усё сваё жыцьцё быў у вельмі цеснай лучнасьці з Царквой, з яе духаўнікамі і заўсёды браў дзейны ўдзел у праваслаўным жыцьці. З другога боку Т. Вернікоўскі, паходзячы з самых нетраў беларускага народу, прыймаючы дзейны ўдзел у беларускім палітычным жыцьці ўжо ад 1905 г., з часам заняўшы нават становішча Міністра Беларускай Народнай Рэспублікі *), працуючы на беларускай палітычнай ніве і да сяньняшняга дня,—Т. Вернікоўскі лепш чым хто іншы бачыў, што толькі цесная лучнасьць духавенства з народам могуць быць сапраўды трывалкімі зрубамі Царквы на нашых землях. Ня можа тут быць мовы аб выкарыстоўваньні Царквы для палітычных мэтаў. Т. Вернікоўскі быў і ёсьць чалавекам шчыра праваслаўным і на такі нячэсны шлях ніколі не пайшоў-бы, а хіба і ніколі ня пойдзе. Т. Вернікоўскі, які заўсёды жыў у атмосфэры паважнай прывязанасьці да Царквы імкнуўся заўсёды да аднаго — спрычыніцца ў меру сваіх сіл і магчымасьцяў да ўзмацаваньня Царквы. Нацыянальнае пачуцьцё Т. Вернікоўскага гэтых імкненьняў не нэгавала. Наадварот, Т. Вернікоўскі слушна разумеў — а гэта пацьвярджае і сяньняшні дзень — што кроўна зьвязаныя з сабой Царква і Народ зьяўляюцца гэткай стыхіяй, якую „не адалеюць і адавы брамы“. Царква і Народ — вось тыя імпульсы, якія змусілі Т. Вернікоўскага, чалавека ўжо вельмі старога, аддаць свае сілы і энэргію працы Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту.

*Ант. Малевіч.*

---

*) Шырэй аб палітычнай дзейнасьці Т. Вернікоўскага было сказана ў „Сьветачы Бел.“ № 3(6) 1931 г.

# Плата за чужыя грахі.

У часы расейскага панаваньня Царква на нашых землях была неадлучнаю часткаю расейскай Царквы. Якія былі парадкі у расейскай Царкве, якую ролю Яна адыгрывала ў агульнадзяржаўным жыцьці б. Расейскай Імпэрыі, пісаць мы ня будзем, бо аб гэтым шмат ужо пісалася і гаварылася, і таму паўтарацца ня варта.

Ў незалежнай Польшчы Царква спачатку захавала ўсе рысы „расейскасьці" у шырокім значэньні гэнага слова. Іерархія, духавенства, а нават і чыноўніцкі элемэнт у духоўных установах—гэта ўсё было расейскае, выхаванае ў традыцыях расэйскае Царквы. Апынуўшыся ў новых абставінах палітычнага і грамадзкага жыцьця, праваслаўная іерархія, большая частка духавенства і расейскае грамадзянства не змаглі адразу зор'ентавацца, не хацелі зразумець, што вернікі Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, бмўшы „русскіе граждане", зусім нерасейцы, а беларусы і украінцы, і што тварыць новы царкоўны арганізм трэба ў паразуменьні з гэнымі „новымі" для іх людзьмі.

Не разумелі і тое, што гэныя, —яшчэ нядаўна па расейскай тэрміналёгіі, — „темныя массы" могуць высунуць нейкія пастуляты і дамаганьні ў адносінах да Царквы, што гэныя „массы" могуць мець свае нацыянальныя, нічога супольнага ня маючыя з іх папярэднім „русским гражданством", імкненьні і ідэалы. Мы верым, што расейскае грамадзянства было шчыра аддадзена сваёй Царкве і сьв. Праваслаўю, але неразуменьне наагул свайго палажэньня ў Польскае Дзяржаве давяло яго да вельмі паважных і нават цяжкіх у рэзультатах памылак у адносінах да Царквы, якія прывялі Царкву да таго катастрафічнага палажэньня, ў якім Яна цяпер апынулася. Беларусы і украінцы ў Польшчы пачалі тварыць свой палітычна-соцыяльны быт. Царква ў жыцьці кожнаго народу алыгрывае адну з самых паважных роляў, дык зусім зразумела, што як украінцы, так і беларусы высунулі пастуляты аб стварэньні сваей зусім самастойнай Царквы, незалежнай ад расейскай. Пастуляты гэныя згаджаліся з інтарэсамі адрадзіўшайся Польскае Дзяржаўнасьці і таму Польскі Урад сымпатызаваў з імі, бо бачыў у іх той шлях, які давядзе да поўнай незалежнасьці Царквы ў Польшчы ад Царквы расейскай. Вынікам гэных сымпатыяў было тое, што даволі хутка ў Польшчы была ўстаноўлена аўтокэфальнасьць Праваслаўнае Царквы. Гэта быў моцны ўдар па нацыяльнаму самалюбству расейскага грамадзянства і яно павяло акцыю супроць прызнаньня аўтокэфаліі. Гэную акцыю падтрымала іерархія і частка духавенства, што для некаторых скончылася досыць трагічна. Аўтокэфалія Царквы ўвайшла ў жыцьцё ня глядзячы на пратэсты расейскай часткі духавенства і расейскага грамадзянства, аднак гэны спраціў меў паважны ўплыў на далейшы лёс нашае Царквы. Суадносіны Царквы і Дзяржавы былі ўрэгуляваны „Тымчасовымі Правіламі", ў якія быў ўведзены з п., які фактычна аддаў лёс духавенства ў рукі адміністрацыйнае ўлады.

Аправіўшыся ад гэнага першага ўдару, расейскае грамадзянства пачало прыймаць усе меры, каб замацаваць свае ўплывы ў Царкве, а дзеля таго, што іерархія і частка духавенства былі або расейскім, або моцна зрусыфікаваным элемэнтам, дык паміж расейскім грамадзянствам, іерархіяй і гэтым духавенствам паўстае цесны кантакт дзеля захаваньня „расейскасьці“ ў Царкве. Справядлівыя дамаганьні беларусаў і украінцаў не браліся пад ўвагу і *Праваслаўная Царква ў Польшчы фактычна была Расейскай Царквою на Эміграцыі.* Духоўная ўлада, якая абапёрлася на расейскую інтэлігенцыю, і якая падтрымліваецца расейскаю прэсаю, не дапушчала да таго, каб беларусы і украінцы маглі ўмешвацца ў царк. справы. Ў духоўных установах і ў царкоўным быце панаваў расейскі язык, а офіцыоз Мітраполіі выдаваўся парасейску. Духоўная ўлада і расейскае грамадзянства не хацелі бачыць, што такі стан рэчаў аслабляе Царкву, што сэктанства пачынае расьці, што няверра і бязбожжа апаноўваюць масы і што ў самой Царкве паўсталі „нестроенія“. Такое палажэньне выклікала з боку беларусаў і украінцаў засьцярогі адносна іерархі, духавенства і расейскага грамадзянства, робячы ім закіды ў дэзарганізацыі царкоўнага жыцьця. І вось тут выявілася, што на адным расейскім грамадзянстве абапёрціся нельга, бо-ж яно, як няпрызнаная меньшасьць, ня можа мець аўторытэтнага голасу ў царкоўных справах. Духоўнай уладзе прышлося шукаць падтрыманьня ў некага трэцяга, што ў сваю чаргу выклікала розныя компрамісы і ўгоды, дэзарганізуючыя яшчэ больш царкоўнае жыцьцё. Упорнае непрызнаваньне беларускіх пастулятаў і дамаганьняў змусіла духоўную ўладу пайсьці на палянізацыю царкоўнага быту, а нават на замену богаслужэбнага царкоўна - славянскага языка на язык дзяржаўны.

Гэта не закранула Валынскае епархіі, дзе, дзякуючы праваслаўнаму архіерэю—украінцу, ідзе украінізацыя Царквы.

Такі стан рэчаў у царкоўным жыцьці на нашых землях моцна адбіўся на палажэньні духавенства, якое ў выніку гэткай палітыкі страціла сваю паству. Гэта-ж у сваю чаргу павялічвае ўплывы праціўнікаў Царквы і нават наагул хрысьціянства.

Барацьба, якая доўгі час панавала ў Царкве, давяла Яе да катастрафічнага палажэньня. Беларускае грамадзянства прадбачыла такі фінал, пісала аб гэтым у сваёй прэсе, складала мэморыялы, гатова былаісьці на ўсялякія компрамісы, аднак заўсёды спатыкалася з нэгатыўным становішчам духоўнае ўлады і расейскага грамадзянства. Цяпер час ад часу ў расейскай прэсе зьяўляюцца артыкулы, прысьвечаныя цяжкому палажэньню Царквы, але аднак і дагэтуль ніхто ня прызнаецца да таго, што гэнае цяжкое палажэньне Царквы зьяўляецца вынікам тых памылак, якія былі зроблены іерархіяй і часткаю расейскага духавенства, пры падтрыманьні расейскага грамадзянства.

Беларускае праваслаўнае грамадзянства ніколі не нэгавала права расейскага грамадзянства - мець сваё духавенства, слухаць пропаведзі ў расейскім языку і вучыць сваіх дзяцей Закону Божаму ў сваёй роднай мове; затое расейскае грамадзянства не хацела прызнаць гэнага пра-

ва беларусам. Для іх Беларускі Народ — гэта ўсё яшчэ „тёмная масса“, няздольная да выяўленьня сваіх нацыянальных імкненьняў і пажаданьняў, хоць і аказалася, што без падтрыманьня гэнай „темной массы“ і расейскаму грамадзянству пагражае слухаць Слова Божае ў чужой мове.

Царква ў нас супольная. Можа аддадзенасьць Царкве і супольнасьць інтарэсаў змусяць расейскае грамадзянства зьмяніць сваю псыхолёгію і яно нарэшце пабачыць, што беларускае грамадзянства—гэта ня вораг Царквы, які імкнецца да аслабленьня Царквы дзеля сваіх нейкіх тайных мэтаў і імкненьняў (як аб гэтым ня раз ужо пісалася ў расейскай прэсе).

Нам думаецца, што расейскае грамадзянства нарэшце пераканалася ў тым, што ўся яго палітыка ў царкоўнай справе давяла да таго, што Царкве ізноў пагражаюць „испытанія“, якія могуць нанясьці Ёй вельмі балючы ўдар, пасьля якога яна ня хутка верне свой страчаны аўторытэт і сваё значэньне. На духоўную ўладу лічыць шмат нельга, бо яна, не маючы падтрыманьня з боку шырокіх народных масаў, змушана, і заўсёды будзе змушанай, пайсьці па шляху найменшага супору, хоць і добра разумее да чаго такі шлях давядзе.

*З такім курсам царкоўнай палітыкі веруючыя масы ніколі ня згодзяцца і гэта можа выклікаць новыя смуты і нават раскол.* Калі расейскаму грамадзянству сапраўды дарагая Царква, аб чым усьцяж кажацца і пішацца ў расейскай прэсе, дык яно павінна пакінуць выкарыстоўваць Царкву для сваей нацыянальнай палітыкі і прызнаць справядлівасьць беларускіх дамаганьняў, а нават памагчы зрэалізаваць іх. Царква ў нас супольная, і калі Ёй пагражае небясьпека, дык і высілкі—пазбыцца гэнае небясьпекі—павінны быць супольнымі. Ў цяперашні мамэнт коордынацыі супольных высілкаў перашкаджае царкоўная палітыка расейскага грамадзянства і таму трэба яе перагледзіць, маючы на ўвазе сапраўдны стан рэчаў, а не лятуценьні некаторых „патрыётаў“.

Супрацоўніцтва на царкоўнай ніве ёсьць магчымым толькі пры ўмове лёяльных адносінаў расейскага грамадзянства да самой справы і да слушных беларускіх пастулятаў. Шчырая-ж супрацоўніцтва на царкоўнай ніве можа з аднаго боку памагчы духоўнай уладзе больш спакойна разабрацца ў стварыўшайся сытуацыі, з другога-ж боку можа змусіць неправаслаўныя дзейнікі больш лічыцца з пастулятамі і дамаганьнямі праваслаўных. Дабро Царквы патрабуе самаахвярнасьці, а верныя сыны Царквы павінны паказаць гэную самаахвярнасць і аддадзенасьць не словам, але сваім дзейным паступаньнем.

*У. Більдзюкевіч.*

# Польскія адносіны да Царквы.

Хачу тут закрануць справу адносінаў польскага грамадзянства да Прав. Царквы ў Польшчы і яе вернікаў. Вось-жа трэба адразу сказаць, што гэтыя адносіны зьяўляюцца далёка неаднапітымі. Адносінаў гэтых ёсьць некалькі катэгорыяў.

1) Да першай залічаю тую катэгорыю „адносінаў“, якія па-

лягаюць на тым, што частка польскага грамадзянства зусім ня цікавіцца Прав. Царквой у Польшчы, ані яе вернікамі. Ясна, такія „адносіны“ да суграмадзян аднае дзяржавы назваць вельмі карыснымі для іх сужыцьця і супольнага дабра хіба-ж ня прыходзіцца.

2) Да другой катэгорыі трэба залічыць тую вельмі і вельмі невялічкую частку польскага грамадзанства, якая да нас праваслаўных і нашае Царквы адносіцца даволі прыхільна. Грамадзянства гэтае згаджаецца з тым, што адносіны польскага грамадзянства да праваслаўных і іх Царквы павінны апірацца на прынцыпе „роўны з роўным“, на прынцыпе пашаны аднаго да другога, а нават сільнейшага да слабейшага. Пагляд такі слушны, бо толькі пры ім ёсьць магчымым згоднае сужыцьцё розназеруюых грамадзян аднае дзяржавы. У гэтым выпадку не істнавалі-б ані непаразуменьні, ані антаганізмы, ані крыўда ці ненавісьць. Адносіны, пабудаваныя на такім прынцыце, дадуць магчымасьць стварэньня адналітага і адпорнага фронту супроць супольнага ворага Праваслаўнай і Каталіцкай Цэркваў а таксама і Дзяржавы — атэістычнага камунізму. Такім чынам такія адносіны былі-б карыснымі ў сэнсе хрысьціянскім і дзяржаўным. Нажаль трэба прызнацца, што такога польскага грамадзянства, якое гэтак разумее свае адносіны да Прав. Царквы і яе вернікаў, ёсьць вельмі і вельмі мала.

3) За тое куды вялікшая частка польскага грамадзянства, і гэта будзе трэцяя катэгорыя, якая адносіцца да Прав. Царквы і яе вернікаў, лагодна кажучы, амаль што няпрыхільна. Датычыць гэта асабліва масы, але таксама і значную частку польскае інтэлігенцыі. У падставе гэтых адносінаў ляжыць памяць колішняга расейскага прымусу над польскім народам і чамусь гэта цесна лучыцца сяньня з Праваслаўнай Царквой і яе вернікамі. І такім чынам колішняя няпрыхільнасьць пераносіцца сяньня на Прав. Царкву і яе вернікаў, хоць яны ў 90% і не зьяўляюцца расейцамі. Няпрыхільнасьць гэтая выяўляецца ў непашаваньні, а часта і высьмейваньні праваслаўных пачуцьцяў, у пагардлівым да іх адношаньні, у стварэньні праваслаўным розных цяжэйшых і меншых труднасьцяў і перашкодаў. Гэта, у свой чарод выклікае сярод праваслаўных, асабліва ў масах, пачуцьцё пакрыўджанасьці, няпрыязьні, а часамі і варожасьці. Словам, адносіны такія выклікаюць адно толькі антаганізмы, недавер і напружаныя адносіны аднае часткі грамадзянства да другое, пражываючых у аднэй дзяржаве. Кожны хіба з гэтым згодзіцца, што такі стан рэчаў ня можна назваць карысным для ніводнае з гэтых старон, ані тым больш для дзяржавы. Наадварот, гісторыя Польшчы сьведчыць, што такія антаганімы зьяўляюцца вельмі некарыснымі, бо, напрыклад, далі мачымасьць Кацярыне Вялікай зрэалізаваць свае расейскія захопніцкія імкненьні пад прыкрыцьцём абароны крыўджаных аднаверцаў. У выніку трэба сказаць, што такія адносіны і суадносіны сяньня выходзяць толькі на карысьць супольнаму ворагу — атэістычнаму камунізму. Нехта можа адкажа на гэта, што пры такім стане рэчаў пацерпіць сяньня толькі Праваслаўная Царква. Згаджаюся з гэтым. Але ня выйграе на гэтым ані Каталіцкая Царква, ані дзяржа-

ва. Бо калі існуюць такія адносіны, залічаныя намі да трэцяй катэгорыі, то трудна спадзявацца, каб пагарджаны і нялюбімы праваслаўны адарваўся ад Праваслаўнай Царквы і прыстаў да Каталіцкай. Пры гэтых адносінах праваслаўны можа куды хутчэй быць уведзены ў рады атэістаў, а адначасна і кампартыі. Гэта-ж будзе ня толькі аслабленьнем праваслаўных радоў, але адначасна і павялічэньнем радоў чырвонае Масквы, ворага і Каталіцкае Царквы, а хіба і ня вельмі вялікага прыяцеля польскага народу і дзяжавы. Словам, у сяньняшніх абставінах агаворваныя адносіны зьяўляюцца некарыснымі ня тольлі для аднэй Праваслаўнай Царквы.

4) Ёсьць урэшце яшчэ адна катэгорыя польскага грамадзянства, адносіны якой да Прав. Царквы і яе вернікаў ня можна назваць няпрыхільнымі, але таксама ня можна назваць іх і прыхільнымі. Для гэтай часткі польскага грамадзянства Прав. Царква і яе вернікі зьяўляюцца об'ектам рэлігійных і палітычных экспэрымэнтаў. Дзякуючы гэтаму, агаворваныя адносіны маюць на мэце не дабро суадносінаў паміж праваслаўнымі і каталікамі, але выключна і толькі інтэрас уласны. Так, адна частка польскага грамадзянства гэтае апошняе катэгорыі свае адносіны да Прав. Царквы і яе вернікаў узалежнівае ад акцыі здабываньня вернікаў для Каталіцкай Царквы ўсходняга, а нават і заходняга абраду. Адносіны, пабудаваныя на такіх імкненьнях, зьяўляюцца адносінамі, вульгарна кажучы, ваўка ў авечай скуры да авечкі. Залежна-ж ад формы і тактыкі гэтых адносінаў, а лепш кажучы гэтай акцыі і контракцыі з боку праваслаўных, маем у выніку недавер аднае стараны да другое, менш ці больш вострае напружаньне фактычных суадносінаў, а ня раз і даволі вострыя антаганізмы і конфлікты. А кожны хіба згодзіцца, што заўсёды побач з усім гэтым ідзе дыскрэдытаваньне аднэй стараны другою, а гэта-ж у сяньняшнія часы выходзіць на карысьць толькі старане трэцяй — чырвонаму атэізму.

Урэшце другая частка, залічаная намі да апошняе катэгорыі адносінаў польскага грамадзянства, мае на мэце не дабро агаворваных намі суадносінаў, але справу нацыянальнае і палітычнае адналітасьці польскага народу. Гэтая частка польскага грамадзянства, опэруючы ўмела поклічамі лёяльнасьці і дабра дзяржавы, сапраўды-ж карыстаецца слабасьцяй праваслаўнага арганізму ў Польшчы; імкнецца да таго, каб пры помачы Прав. Царквы спалянізаваць праваслаўных, па нацыянальнасьці не-палякоў.

Мы бачым, як з гэтай мэтаю частка польскага грамадзянства паціху і паступова намагае заводзіць ў праваслаўныя богаслужэньні польскую мову; заводзіцца яна і ў зносінах паміж духавенстам, вытвараюцца „prawosławni polacy". Плянова палянізуюцца кандыдаты ў сьвяшчэньнікі а таксама і прыняўшыя гэты сан, накідаецца польская мова праваслаўным вернікам не-паляком праз пропаведзі, пры навучаньні закону Божага, урэшце пры помачы друкаванага слова, прысьвечанага праваслаўна-рэлігійным справам. Як на гэтыя „адносіны" рэагуюць праваслаўныя, ўсім добра ведама. І таму сьмела можна сказаць, што гэтыя „адносіны" ніякім чынам ня могуць паслу-

жыць дабру суадносінаў дзьвюх частак грамадзянства дзяржавы. Ня могучы паслужыць успомненаму дабру суадносін, агавораныя „адносіны“ не асягаюць праднамеранага, а наадварот, пасіліваюць тое, дзеля ліквідацыі чаго гэтыя „адносіны“ і пакліканы да жыцьця Так, напрыкл., у адказ на ўводжаньне польскае мовы ў праваслаўныя богаслужэньні масы адыходзяць і ад самой Царквы. Тлумачыцца гэта тым, што з аднаго боку чуюцца абражанымі ў сваіх нацыянальных пачуцьцях, з другога боку баяцца подступу акцыі каталічываньня. Вера ў існаваньне гэтага подступу тлумачыцца існаваньнем вышэй разгледжаных некаторых адносінаў да Царквы, а з другога боку ідэнтыфікаваньнем паняцьцяў „польскі“ і „каталіцкі“. Калі-ж яшчэ прыпомнім сабе, што ў польскай мове прамаўляе да масаў не заўсёды ім любы паліцыянт, сэквэстратар ці асаднік, то рэч ясная, што польская мова ў Царкве можа выклікаць усялякія пачуцьці, але толькі не пачуцьцё патрэбы добрага сужыцьцья з тымі, хто польскую мову накідае. Ведаем таксама, і то нават з польскае праўрадовае прэсы, што польская мова вельмі цяжка зашчэпліваецца ў пачаткавых школах, у якія дзеці павінны хадзіць прымусова. Бачым паўторны анальфабэтызм. Вось-жа, зноў можна заўважыць, ня ўжо Царква, адведваньне якой не зьяўляецца прымусам, рэгуляваным „штрафамі“, зможа зрабіць з людзьмі дарослымі тое, чаго не зрабіла школа? Словам, нам здаецца, што польская мова ў Царкве, у час невырашаньня беларуска-польскіх адносінаў, да сэрца беларуса не прамовіць. А ў выніку ў беларускай душы можа астацца толькі горкі асадак — недавер да сьвяшчэньніка і вельмі мала пачуцьця прыхільнасьці да ўсяго польскага. Зразумела, што з гэтага скарыстае толькі адна старана — атэістычны камунізм. Ня лепш выглядае справа і з вытвараньнем т. зв. „prawosławnych polaków“. Бачым, што да іх радоў прыступаюць пераважна або малавартасныя кар'ерысты, або ў лепшым выпадку людзі змушаныяда гэтага страхам перад утратаю кавалка хлеба. Праваслаўная польскасьць іх канчаецца таму пераважна з хвілінай унезалежненьня свайго матэр'яльнага быту. Дзякуючы таму, што мала тут бачым ідэйнасьці, мала ад гэтага будзе і позытыўных вартасьцяў, а хіба толькі куды болей дэмаралізацыі. Ад гэтага-ж можам спадзявацца найменш карысьці ня толькі для Царквы Праваслаўнай і Каталіцкай, але і для дзяржавы. Таксама польскасьць маладога праваслаўнага духавенства пераважна канчаецца з хвілінай атрыманьня магістэрскага дыплёму, а ў прыходзе — на парозе царквы і ўласнае хаты. Праўда, некаторыя з іх, гнаныя пачуцьцём карьеры і надалей, хоць можа і ў форме больш злагоджанай, высіліваюцца на патёмкінаўскія імпрэзы. Аднак і ад гэтага позытыўных карысьцяў вельмі мала. Наадварот, бачым толькі адну шкоду. Духавенства такое не карыстаецца пашанай масы, яна яго не разумее, не давярае яму і такім чынам духавенства гэтае масаў пацягнуць за сабой ня можа. А рэч усім ведамая, што калі намасу ня мае ўплыву духаўнік, маса куды лягчэй падпадае пад уплывы кампартыйных палітрукаў. Падобныя вынікі дае польская мова ў пропаведзі і ў законанавучаньні. Агітатар камсамолец, ці анарха-сэктанскі пра-

паведвік сваім гарачым і любым беларускім словам вельмі лёгка пераможа сьвяшчэньніка з польскай мовай, з яго мляўкасьцяй і няпэўнасьцяй у новай ролі. Як можна судзіць, ня шмат карысьці дае і польскае друкаванае слова, прысьвечанае справам праваслаўна - рэлігійным. Гэта проста таму, што Народ ня знае польскае мовы.

Такім чынам, нам здаецца, што гэтая апошняя катэгорыя „адносінаў", замест памылкова прадбачаных карысьцяў для дзяржавы, прынясе ёй пераважна толькі шкоду. Павялічваюцца рады нездаволеных, а часта і рады кампартыі.

Рэасумуючы ўсё вышэй сказанае, трэба сьцьверзіць, што адносіны польскага грамадзянства да Прав. Царквы і яе вернікаў, калі разглядаць справу ў суцэльнасьці, зьяўляюцца за малымі выняткамі хіба хутчэй шкоднымі і для Царквы Праваслаўнай і Каталіцкай, і для самой дзяржавы. Бо, як мы бачым, адносінаў да Праваслаўнай Царквы або зусім няма, або пабудаваны яны на няпрыхільнасьці, або „адносіны" гэтыя маюць на ўвеце выкарыстаньне стану веравызнаўчага, або палітычнанацыянальнага. Ясна, калі адносіны такія зьяўляюцца шкоднымі, а назваць іх інакш нельга, дык ніякім чынам ня можна лічыць іх нармальнымі. Таму, бязумоўна, адносіны гэныя павінны быць агульна карыснымі. Замест зацікаўленьня ці няпрыхільнасьці да праваслаўных, павінна зьявіцца любоў і зразуменьне іх. Замест падрываньня аўторытэту Царквы, з мэтай прывабленьня да сябе яе вернікаў, павінна быць выказана сапраўды хрысьціянская толеранцыйнасьць. Урэшце замест выкарыстоўваньня Царквы для палітычных справаў, Царква павінна быць якраз адгароджанай ад гэтых справаў. Бо толькі ў гэтым выпадку сярод вернікаў зьявіцца пачуцьцё ўдзячнасьці за апеку над Царквой, ня-польская мова яе вернікаў не перашкодзіць тады і існаваньню пачуцьця лёяльнасьці. Трэба думаць, што польскаму грамадзянству хіба не залежыць на паніжэньні праваслаўных пачуцьцяў ці разбурэньні Царквы. Залежыць хіба на тым, каб праваслаўныя былі добрымі грамадзянамі дзяржавы, каб ня былі паддатнымі на ўплывы антыхрысьціянскія і цесна з імі сязаныя зьвязаныя — антыдзяржаўныя. Калі сапраўды польскаму грамадзянству на гэтым залежыць, дык разгледжаныя намі адносіны павінны быць як найхутчэй зьменены, бо яны вядуць, як мы бачым, да зусім процілеглага, усім аднолькава некарыснага.

На заканчэньне скажам — прыхільнасьць можна здабыць толькі любоўю, толькі шчырасьцяй і чыстым сэрцам.

*Рагнеда Сл*

# СЭКТАНСТВА.

У артыкулах, прысьвечаных царкоўнаму пытаньню, часта прыходзіцца спаткацца з тым, што сэктанства ўсё больш распаўсюджваецца сярод беларускага праваслаўнага грамадзянства. Місыянэрскія справаздачы толькі сьцьвярджаюць сам факт існаваньня той ці іншай сэкты, прыводзяць дадзеныя аб місыянэр-

скай працы і барацьбе з сэктанствам, але ні разу ня прышлося спаткацца ў іх са спробамі псыхолёгічнага высьвятленьня пытаньня, чаму гэта сэктанства найбольш абыймае беларускія праваслаўныя гушчы? А ня ведаючы д бра прычынаў разьвіцьця сэктанства, трудна вясьці з ім барацьбу. Духавенства абмяжоўваецца выключна выясьненьнем чыста вонкавых прычынаў паўстаньня сэктаў, тады як нам здаецца, што апрача гэных вонкавых прычынаў (як: нездаваленьне мясцовага насельніцтва сваім сьвяшчэньнікам, здольнасьць сэктанскага прапаведніка і т. д) ёсьць яшчэ больш глыбокія, псыхолёгічныя прычыны, якія ў першую чаргу зьяўляюцца імпульсам да разьвіцьця сэктанства сярод беларускіх праваслаўных гушчаў. Беларускі Народ па сваей натуры — народ містычна рэлігійны, народ, які шукае Бога, шукае Вышэйшай Праўды. У гістарычным мінулым, у час змаганьня за сваю Праваслаўную Веру, Беларускі Народ, як н хто, выявіў стойкасьць і ахвярнасьць. Але тады пры народзе стаяла і духавенства, якое падзяляла яго нядолю, якое нават ня раз цярпела за яго і за сваю Царкву. Народ гэта ведаў; бачыў у сваім духаўніку блізкага сабе чалавека, бачыў у ім вернага слугу сваей Царквы і свайго Народу, і таму ішоў за ім, падтрымліваў яго, вязаў сваю долю з доляй сваей Царквы і бараніў Яе. Цяпер мала хто з духаўнікоў знайшоў дарогу да народнае душы, а часам і ня ведае як знайсьці яе. Беларускі Народ, якога духоўная ўлада і часткa духавенства ўважалі, ды і цяпер яшчэ ўважаюць, за „темную массу", няпрыкметна для іхператварыўся ў масу сьведамую, ператварыўся ў народ, які ўжо мае свае нацыянальна-соцыяльныя ідэалы і імкненьні.

І з гэтым фактам трэба лічыцца, але што-ж, калі большая частка праваслаўнага духавенства ня можа, а мо' і ня хоча яго зразумець. Малое зацікаўленьне беларускімі масамі сваёй Царквою духавенства тлумачыць пашырэньнем сярод іх камуністычных уплываў і ня хоча зразумець, што яно зьяўляецца вынікам якраз нацыянальнага ўздыму гэтых масаў і нэгатыўнага адносшаньня да іх большае часткі духавенства.

Бо ці-ж можна паважна аднесьціся да цьверджаньня духавенства, што, прыкладам, нездаваленьні з прыходных пастыраў зьяўляюцца вынікам толькі камуністычнай працы ў прыходах? Можа, пашукаўшы, дзе небудзь гэта і знайшлося-б, але фактычна нездаваленьні гэныя выклікаюць часта самі сьвяшчэньнікі, якія ня ўмеюць падыйсьці да беларускай народнай душы і сваім паступаньнем адпіхаюць яе ад сябе, а нярэдка і ад Царквы. Бо ці ж можа любіць беларуская паства тых духоўных павадыроў, якія нэгуюць родную мову пасомых, якія кажуць, што яны як народ ня існуюць? Ясна, што не, і таму ня трэба шукаць таго, чаго няма і ня скідаць віну выключна на камунізм. Іншая рэч, што духавенства сваім паступаньнем часам пхаець беларускія масы ў абняцьці камуністаў, але гэта ўжо вынікі царкоўнай палітыкі, а ня прычыны пашырэньня сэктанства.

Да гэтае яшчэ пары можна спаткаць наіўных сьвяшчэньнікаў, якія пераконаны, што народ беларускіх пропаведзяў ня хоча, што ён беларускай літэратурнай мовы не разумее. Цікава, у якім расейскім нарэччы прамаўляе такі сьвяшчэньнік да

сваіх верных? Хіба-ж у мове літэратурна-расейскай? Дык якжа гэта пагадзіць, што народ разумее чужую літэратурную мову, а сваей роднай не разумее? Тут ня ў гэтым справа, а справа ў тым, што сам сьвяшчэньнік нашае мовы ня ведае і часта карыстаецца мяшанкай з расейскіх і польскіх словаў, якую ня толькі народ, але і ён сам добра не разумее.

Гэную на першы пагляд малаважную рэч добра дацанілі сэктанскія прапаведнікі і падыйшлі да народу са Словам Божым у яго родным языку. Замест чынаўніцкага фармалізму — народ спаткаўся з жывым словам свайго чалавека. Душа народу шукала Бога, шукала Вышэйшай Праўды, а сэктанскі прапаведнік, знайшоўшы дарогу да гэнае душы, апанаваў яе і памагае ёй у гэным шуканьні „Праўды". Вось гэты, чыста псыхолёгічны працэс разьвіцьця сэктанства сярод беларускіх праваслаўных масаў зусім не дацэніваецца ні духавенствам, ні афіцыяльнымі місыянэрамі, ані духоўнай уладаю. І вось чаму там, дзе сьвяшчэньнік беларус, шчыра аддадзены служэньню сваёй Царкве і свайму Народу, сэктанства пераважна няма

У разьвіцьці сэктанства ёсьць яшчэ адзін важны мамэнт — гэта адсутнасьць блізкага сужыцьця між духаўнікам і яго пастваю. У вёсцы, дзе няма інтэлігентных сілаў, а калі і ёсьць дык вельмі мала, сьвяшчэньнік зьяўляецца фактычна тым аўгорытэтам, да якога вернікі маглі-б зварочвацца ўва ўсіх справах, якія трывожаць іх душу. Але дзеля гэтага патрэба, каб духаўнік здабыў давер верных, каб стаўся для іх блізкім чалавекам. Нажаль такіх сьвяшчэньнікаў, якія патрапілі-б стварыць сабе ўспомненыя суадносіны, у нас вельмі мала. І таму пропаведзі такога духаўніка маюць толькі характар фармальнага выконваньня сваіх абавязкаў і не прамаўляюць да душы людзей, бо ён нічога аб іх жыцьці ня ведае. Гэныя пропаведзі будуць толькі афіцыяльным выясьненьнем евангельля, ці істотнасьці сьвята, але ня жывым словам, якое закранула-б лепшыя бакі чалавечай душы.

Вось у кароткіх словах галоўныя прычыны пашырэньня сярод беларусаў сэктанства. Але мы верым, што гэта час пераходны, верым, што духавенства зразумее належна сваю місыю і павядзе народ да пазнаньня Вышэйшай Праўды і выхавае яго ў любові і аддадзенасьці сваей Праваслаўнай Веры.

Тады для Праваслаўя на нашых землях ня будуць страшнымі ані праціўнікі, ані Яго ворагі. Народ адыходзіць ад сваей прадвечнай Веры дзеля „нестроеній" у Царкве, дзеля неразуменьня духавенствам сваей паствы і ізаляцыі ад яе.

*У. Більдзюкевіч.*

# Праваслаўны фронт.

Калі нейкаму народу і яго дзяржаве пагражае вялікая небясьпека, лепшыя сыны гэтага народу кідаюць покліч — „бацькаўшчына ў небяспецы!" І на гэты покліч усе, што хоць крыху любяць свой народ і бацькаўшчыну, што маюць пачуцьцё чалавецкае годнасьці, восьжа ўсе тыя адразу становяцца ў рады барацьбітаў за шчасьце сваёй бацькаўшчыны. У такія хвіліны зьнікаюць з парадку дня ўсялякія хатнія сваркі і непаразуменьні, прыціхаюць амбіцыі і антаганізмы. У вобліччы ворага, сьмяротна пагражаючага народу і дзяржаве, творыцца аднадушны фронт верных сыноў бацькаўшчыны, маючых перад сабой адну толькі ідэю і жаданьне — чэсна спрычыніцца да перамогі бацькаўшчыны над ворагам. І гісторыя ведае сотні прыкладаў, калі гэткі аднафронтны ўздым тварыў сапраўдныя цуды. Успомнім, для прыкладу, хоць-бы толькі прыгожае геройства палякоў у барацьбе ў 1920 г. з савецкімі войскамі, калі гэтыя акружылі ўжо нават Варшаву. Геройства і аднадушнасьць польскія далі тады так званы „Цуд над Віслай".

Царква Хрыстова ёсьць ня менш дарагім скарбам для хрысьціян чымсь шчасьце бацькаўшчыны. Дабро і шчасьце, калі гэтак можна сказаць, зямной бацькаўшчыны аднолькава цэніцца і беларусам, і расейцам, і украінцам, хоць і не зьўляецца для іх усіх аднэй і тэй самай. Царква Праваслаўная зьяўляецца для іх усіх скарбам супольным, цесна зьвязаным у працягу стагодзьдзяў з лёсам кожнага паасобна з вышэй успомненых народаў. Такім чынам на ўлоньні Праваслаўнае Царквы мы ўсе — беларусы, расейцы і ўкраінцы зьяўляемся братамі, хоць можа ня раз і з рознымі амбіцыямі і з узаемна нэгуючыміся аспірацыямі. Мы, кожны з гэтых паасобных народаў, сяньня сьвята церым, што прыдзе час і кожны з гэтых народаў, забыўшы ўсе свае хатнія непаразуменьні, выкажыцца аднадушным і непераможным геройствам у барацьбе за шчасьце свае бацькаўшчыны. Дык ня ўжо ўсе мы — беларусы, расейцы і украінцы, сыны аднае царквы, не патрапім гэтым-жа самым выказацца ў адносівах да свайго супольнага скарбу — Царквы? Ня ўжо мы гэтак праваслаўна скарлелі, што нават ня зможам ужо змусіць да маўчаньня сваіх непаразуменьняў, нічога супольнага з дабром Царквы ня маючых, у час, калі з глыбі праваслаўнага сэрца трэба крычэць: „Царква ў сьмяротнай небясьпецы!". Гэта-ж не дэмагагічны кліч! Існаваньне сьмяротнае небяспекі бачыць кожны праваслаўны, які мае ў сабе хоць крыху праваслаўнага сумленьня. Акцыя камуністычнага матэрыялізму і ваюючага бязбожжа ня толькі не аслабелі, але што раз мацнеюць. Разьбіваньне Царквы гэтымі акцыямі ідзе шляхамі подступу, барацьбы адкрытай, звонку і знутра. Мы-ж сяньня знаходзімся ў пярэдадні канчальнае і сьмяротнае барацьбы дзікога матэр'ялізму з Хрыстом. Залатой сярэдзіны ў гэтай барацьбе ня будзе. Кампрамісы, нэйтралітэты і іншыя праявы мляўкасьці і ўхі-

леньня ад актыўнасьці ў гэтай барацьбе будуць раўназначны з прыступленьнем да фронту, змагаючага Царкву. Мы да актыўнасьці ў гэтай барацьбе яшчэ дагэтуль не прыгатаваны, у нас няма супольна выпрацаваных поглядаў на гэтую барацьбу, у нас няма аднадушнага ўздыму. Словам, вораг наш сьпешна гатовіцца да барацьбы, мы-ж да яе зусім не прыгатаваны. Ці-ж гэта сьведчыць аб бясьпечнасьці Царквы? Прывядзем другі прыклад. Каталіцкая Царква на наступы атэізму адказала стварэньнем т. зв. каталіцкай акцыі. Акцыя гэтая распрацоўвае аднадушнасьць сваіх вернікаў, паглыбляе іх каталіцкаю актыўнасьць і адпорнасьць, крысталізуе каталіцкі сьветапагляд, распрацоўвае адналітасьць поглядаў і спосабаў барацьбы з атэізмам. Каталіцкая акцыя сяньня прыняла ўжо разьмеры нясузляднага размаху. І Вось, дзякуючы нашай, праваслаўнай незарганізаванасьці, ўспомненая акцыя, у прынцыпе скіраваная супроць атэізму, сяньня пачала пагражаць праваслаўным. Размах гэтай акцыі проста пачынае цягнуць за сабой некаторых праваслаўных. Гэтыя апошнія пачынаюць глядзець на сьвет праз акуляры, вытвараныя каталіцкай акцыяй. Некаторыя праваслаўныя перастаюць ведаць падставовыя праўды Праваслаўнай Царквы, добра ведаючы пры гэтым погляды Царквы Каталіцкай. Такім чынам праваслаўнасьць гэтых праваслаўных паволі пачынае быць толькі фармальнай, бо нутро іх рэлігійнага сьветапагляду пачынае паволі акаталічывацца. Вунійная акцыя, таксама натхнёная бадзёрасьцяй акцыі каталіцкай, успомнены працэс будзе толькі хіба ж прысьпешваць.

У каталіцкай Польшчы мы часта спатыкаемся з так званымі мяшанымі шлюбамі Для каталіка, загартованага ў сваёй каталіцкасьці агаворванай акцыяй, такі шлюб з рэлігійных паглядаў ня будзе небясьпечным. Для праваслаўных такі шлюб пераважна зьяўляецца зьменшаньнем радоў вернікаў Праваслаўнае Царквы. Дык ці-ж гэта ўсё гаворыць аб бясьпечнасьці Царквы? Урэшце, ці толькі вышэй сказанае пагражае Царкве? Ці-ж ня таксама пагражаюць ёй індэфэрэнтызм масаў, сэктаства і „вольнадумства“ маладога пакаленьня праваслаўнае інтэлігенцыі, адарванасьць іерархіі і духавенства ад масаў, разыходжаньні ў паглядах іерархаў, іх часта і задалёка ідучая ўгодлівасьць, розныя „нестроеніі“ ў царкоўным жыцьці, розныя антаганізмы на нацыянальным грунце і г. д? Словам, ня ўжо ўсе вышэй пералічаныя зьявішчы, пры гэтым дзеючыя адначасна, мы можам назваць сымптомамі бясьпечнасьці Царквы? Назаве іх гэтак хіба толькі той, хто да рэшты страціў ня толькі сваё праваслаўнае сумленьне, але і наагул сваю чэснасьць. Абставіны, ў якіх сяньня знайшлася нашая Царква, прымушаюць кожнага праваслаўнага сказаць сабе ў глыбі сэрца — „Царква ў сьмяротнай небясьпецы!“ Сказаць сабе гэта, гэта значыць збудзіць у сабе найсьвяцейшыя парывы чалавека, аддаць сябе ўсяцэла для справы барацьбы за сваю Царкву. І сапраўды, пры сяньняшніх абставінах кожны праваслаўны павінен выбраць адно з двох: або стаць у рады гэтае барацьбы, гэта знача патаптаць свае амбіцыі, свае асабістыя аспірацыі ці сымпатыі і сваёй самаахвярнасьцяй пацягнуць за

сабой іншых; або ня прыняць удзелу ў гэтай барацьбе, гэта знача, — або адкрыта, або ў форме шуканьня залатой сярэдзіны, — здрадзіць Царкву.

Такім чынам у вобліччы небясьпекі, пагражаючай Царкве ўсе мы — беларусы, расейцы і ўкраінцы павінны неадкладна прыступіць да аднадушнае барацьбы за свой супольны скарб. Усе нашыя непаразуменьні і антаганізмы павінны счэзнуць. Ня час цяпер зводзіць парахункі за справы нічога супольнага з дабром Царквы нямаючыя. Ня час цяпер вытыкаць адзін другому уласныя віны. Гэтыя рэчы зробіць гісторыя. Сяньня ж над усім гэтым павінна запунаць адна думка — дабро Царквы! Сяньня павінен стварыцца аднафронтны ўздым праваслаўных сэрцаў, павінен паўстаць аднадушны фронт праваслаўных, які дасьць імпульс да стварэньня праваслаўнае акцыі. Беларусы на ўлоньні праваслаўнай Царквы ў Польшчы сяньня маюць найменш правоў. Маглі-бы пры сяньняшніх абставінах пачаць акцыю здабываньня сабе гэтых правоў і магчыма акцыя гэтая сяньня мела-бы пасьпех.

Беларусы аднак з увагі на дабро Царквы ад акцыі гэтай сяньня адмаўляюцца.

Але беларусы вераць адначасна, што і расейцы з украінцамі дабро Царквы паставяць сяньня вышэй сваіх палітычных аспірацыяў, што сваімі антаганізмамі не захочуць разьбіваць ідэю праваслаўнага фронту, ідэю праваслаўнага ўздыму вернікаў Царквы тады, калі ёй пагражае найвялікшая небясьпека,

*Праваслаўны.*

# З ПРЭСЫ.

Ў № 308 віленскай газэты „Słowo“ ад 8 лістапада 1936 г. зьмешчаны вядомым публіцыстым Cat'am артыкул пад загалоўкам: „Ludzie niedorośli do rozwiązywania zadań państwowych“. Артыкул гэны прысьвечаны ўвядзеньню ў Праваслаўную Царкву польскага богаслужэбнага языка замест цяперашняго царкоўна-славянскага.

Аўтар ў сваім артыкуле кажа:

„Сынод аўтокэфальнай польскай Царквы зацьвердзіў літургічныя тэксты набажэнстваў у польскім языку, гэта значыць, што праваслаўнае набажэнства ў цэрквах можа адбывацца ў польскім языку замест у царкоўна славянскім..

Мы каталікі і адначасна палякі! Але ці мы можам дапусьціць, каб кардыналы Глёнд і Какоўскі пастанавілі, каб „Św. Msza“ адпраўлялася ў польскім языку, каб замест „Dominus Vobiscum“—казалася-б „Pan z Wami“. Ясна, што не!.

Нашыя біскупы да такой паланізацыі набажэнства ніколі не дапусьцілі-б, нават і тады, калі-б гэта дапушчалась каначічна...

А праваслаўныя архіерэі згадзіліся зьмяніць свой богаслужэбны язык. Гэта якраз выяўлае высшасьць характару каталіц-

кага духавенства над праваслаўным. Гэтым мы, як каталікі можам гардзіцца. Але як палякі сумуем над абсалютнай адсутнасьцяй інтэлігенцыі ў нашай рэлігійнай палітыцы...

Ясна, што лепш было-б, каб усе жыхары Польшчы прынялі каталіцызм і выракліся праваслаўя. Але гэтага пакуль што зрабіць нельга, а таму ня трэба ствараць сытуацыі, якую-б кожны праваслаўны адчуваў як перасьледаваньне яго веры...

Чэў такое выражэньне:—Польскі салдат павінен слухаць набажэнствы ў польскім языку. Язэп Пілсудскі быў таксама польскім салдатам, слухаў аднак набажэнствы палаціне. Падобны афорызм мог сказаць толькі той, хто ня ведае, што ў Польшчы ніводны салдат ня слухае набажэнствы папольску, бо салдат каталік слухае яго палаціне, магамэтанін—паарабску, жыд—пагэбрайску, караім — пакараімску. Найцікавейшым ёсьць тое, што царкоўна-славянскі язык ужываецца пры набажэнствах у каталіцкім касьцёле грэка-уніяцкага і нова-славянскага абраду...

Царкоўна-славянскі язык зьяўляецца таксама галоўным богаслужэбным языком Усходняе Царквы, як ў нашым Касьцёле язык лацінскі.

Ў царкоўна-славянскім языку адпраўляюцца набажэнствы ад часоў сьв. сьв. Кірыла і Мефодзія з IX веку.

Ў царкоўна-славянскім языку адбываюцца набажэнствы ў нас, ў Расеі, Баўгарыі, Сэрбіі. Аляксандр III і Пабеданосцаў, вядомыя як русафікатары, аднак царкоўна-славянскага языка языком расейскім не замянілі.

Можа знойдзецца нейкі паўінтэлігент, які прызнае гэную палянізацыйную тэндэнцыю набажэнстваў за „нацыянальную" палітыку. Аднак, нацыянальная палітыка не зьяўляецца так моцна прымітыўным прадметам...

Бо калі мы хочам мець лепш каталіка чым праваслаўнага, дык ізноў-жа мы павінны сказаць сабе, што з кожнага пункту гледжаньня хочам мець лепш праваслаўнага чым — бязбожніка. А калі пачнем без цэрамоніі распараджацца культам праваслаўнае Царквы, дык у выніку можам выклікаць толькі павялічэньне бязбожжа ў праваслаўнай вёсцы".

Так піша публіцысты-паляк і каталік, які, як бачым, большую частку віны складае на рэлігійную палітыку сьвецкае ўлады.

Мы-ж праваслаўныя павінны ведаць, што: 1) праваслаўная Царква — Саборная, і таму для зьменаў устанавіўшыхся звычаяў і традыцыяў павінна быць згода і пастанова Сабору; 2) калі дзяржаўнай Канстытуцыяй загарантавана свабода веравызнаньняў, дык ніхто ня можа змусіць праваслаўную іерархію да рэформаў, якія парушаюць устанавіўшыяся ў Праваслаўнай Царкве традыцыі. І калі іерархія на гэныя рэформы ідзе, дык гэта значыць, што яна добраахвотна і зусім сьведама выбрала гэны кірунак у сваёй царкоўнай палітыцы. Ясна, што такая палітыка выклікае трывогу сярод вернікаў за лёс сваей Царквы і гэта павінна вельмі і вельмі духоўную ўладу абходзіць. Той-жа самы публіцысты падчырківае, што інтарэсы Дзяржавы зусім не вымагаюць палянізацыі Царквы, а наадварот, яна, выклікаючы розныя царкоўныя „нестроенія", можа толькі адʻемна адбіцца на дзяржаўным жыцьці.

Дык паўстае пытаньне, хто ўрэшце і дзеля якіх мэтаў пхае нашую іерархію на гэныя новыя экспэрымэнты?

Пытаньне гэнае прыходзіцца задаць асабліва нам, бо галоўным абшарам для гэных экспэрымэнтаў зьяўляюцца якраз епархіі з беларускім насельніцтвам і якраз мы, а ніхто другі, зацікаўлены і ўстрывожаны „новым" кірункам царкоўнае палітыкі духоўнай улады. — Духоўная ўлада ў нашых епархіях — гэта элемэнт наплывовы, мала азнаёмлены з характарам, звычаямі і традыцыямі нашага народу. Дзеля гэтага мы лічым неабходным падчыркнуць некаторыя рысы беларускага народу, маючыя вельмі важнае значэньне пры ўрэгуляваньні царкоўнага пытаньня.

*Беларускі народ — традыцыйна-кансэрватыўны, які са сваімі звычаямі і ўстанавіўшыміся традыцыямі растаецца нялёгка,* аб чым ужо магла пераканацца і духоўная ўлада пры спробах увядзеньня новага стылю. Вось чаму трэба высьцерагацца падобных экспэрымэнтаў, *бо яны могуць зусім разбурыць царкоўнае жыцьцё і давясьці нават да расколу.* Што духоўныя ўлады мала лічацца з нашымі традыцыямі, нават з нашым нацыянальным пачуцьцём, дык доказам гэтага можа паслужыць факт прызначаньня для новых экспэрымэнтаў якраз старадаўняй беларускай сьвятыні, цесна зьвязанай з гісторыяй беларускага народу, сьв. Троіцкага Манастыра. Справа Царквы—гэта справа „сьвятое сьвятых" народу. І тыя, хто пастаўлены кіраваць духоўным жыцьцём народу, павінны аб гэтым памятаць і з гэтым лічыцца.

*Обсэрватар.*

# ХРОНІКА.

11 лістапада г. г. ў Вільні ў Свв. Троіцкім Манастыры была адслужана ў польскай мове Бажэсьцьвенная літургія і малебен для салдатаў Віленскага Гарнізону. Пяяў хор зложаны з харыстаў архіерэйскага хору пад кіраўніцтвам гр. Матвійца.

**Справа Пятніцкай Царквы.** Праваслаўнае беларускае грамадзянства пачало рабіць пэўныя захады дзеля стварэньня з Пятніцкай Царквы самастойнага беларускага прыходу ў Вільні.

Дзякуючы таму, што законавучыцель Беларускай Гімназіі сьв. Багаткевіч ня прыдзеляны да ніводнага прыходу ў Вільні, богаслужэньні ў Пятніцкай Царкве адбываюцца рэгулярна ў кожнае сьвята і ў нядзелю.

Пяе гімназіяльны хор Віл. Белар. Гімназіі пад кіраўніцтвам гр. Караля.

Можа Беларускае грамадзянства ў Вільні нарэшце і дачакаецца свайго беларускага прыходу.

**Сьвяткаваньне 5 угодкаў Ц. Б. П. К і 75 угодкаў жыцьця старшыні К-ту грам. Т. Вернікоўскага.**

24 лістапада 1936 г. адбудзецца сьвяткаваньне 5 угодкаў існаваньня К-ту і 75 угодкаў жыцьця старшыні К-ту грам. Т. Вернікоўскага.

Сьвяткаваньне пачнецца ўрачыстым малебенам. А 12 гадз. у памяшчэньні Камітэту адбудзецца ўрачыстае паседжаньне Прэзыдыюму ЦБПК, прысьвечанае ўспомненым угодкам.

А 19 гадз. увечары ў памяшчэньні Камітэту (вул. Вясеньняя 7—2) адбудзецца гарбатка для супрацоўнікаў Камітэту і „Сьветача Баларусі", а таксама і для запрошаных гасьцей.

# ЗЬМЕСТ.

Стр.



Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Wiosenna Nr 7, m. 2.

Рэдактар: У. БІЛЬДЗЮКЕВІЧ.

Выдавец: Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.